ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 43 (99) 30 сьнежня 1994 г.– 5 студзеня 1995 г. Кошт 50 рублёў

## НАВАГОДНЯЕ ПАСЛАНЬНЕ МІТРАПАЛІТА МЕНСКАГА І СЛУЦКАГА ФІЛАРЭТА ПАТРЫЯРШАГА ЭКЗАРХУ ЎСЯЕ БЕЛАРУСІ З НАГОДЫ НАРАДЖЭНЬНЯ ВЫРАТАВАЛЬНІКА

*Узьлюбленыя ў Хрысьце прэасьвяшчэнныя архіпастыры, пастыры, богалюбівыя інакі і інакіні і ўсе верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы!*

*З году ў год з нязьменнай дакладнасьцю сусьветнага кругазвароту надыходзіць вялікае сьвята Ражаства Хрыстовага. І як радасна адгукаецца яно ў нашых сэрцах, калі мы чуем сьвяты голас Царквы: "Христос раждается, славите. Христос с небес, срящите. Христос на земли, возноситеся. Пойте Господеви вся земля, и веселием воспойте, людие, яко прославится" (1-я песьня канона Ражаства).*

*Дзівосная падзея Нараджэньня Хрыстовага адбылася, калі надыйшоў час, вызначаны Богам для прышэсьця ў сьвет Месіі, Які "уратуе людзей Сваіх ад грахоў іх" (Мф. 1,21). Бязьмежная і непасьціжная любоў Бога да рода чалавечага, да ўсіх нас. Ён Сына Свайго Адзінароднага пасылае ў сьвет, "каб кожны, хто верыць у яго, не загінуў, але меў жыцьцё вечнае" (Ін. 3,15-16).*

*Таму Адзінародны Сын Божы, сышоўшы з нябёсаў дзеля нашага збаўленьня, нараджаецца ў горадзе Давідавым Віфлееме ад Прэснадзевы Марыі. Царква так апавядае пра гэта: "В вертепе вселилися еси, Христе Боже, ясли Тя восприяша, пастыри же и волхви поклонишася. Тогда убо исполнися пророческая проповедь, и ангельския силы дивляхуся, вопиюще и глаголюще: слава схождению Твоему, Едине Человеколюбче" (Сьціхіра на сьціхоўні).*

*Прэасьвяшчэнныя архіпастыры, богалюбівыя пастыры, інакі і інакіні і ўсе верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы, віншую вас з вялікім сьвятам Ражаства Госпада Бога і Сына нашага Ісуса Хрыста і вітаю з благаслаўёным Новалецьцем!*

*Няхай пануе ў сэрцах нашых радасьць аб Народжаным Богадзіцяці Хрысьце (Лк. 2, 10-11), што асьвятліла зямлю сьвятлом Божай любові!*

*Не ў шыкоўных і бліскучых палатах нарадзіўся Той, Каго ўслаўляе Царква, а ў беднай Віфлеемскай пячоры; не мяккія пялены слаліся для яго першым ложам на зямлі, а грубастая салома ў яслях; не бліскучыя царадворцы акружалі яго калыску, а маўклівыя жывёлы ды ўбогія пастухі.*

*Таму сёньня нашыя думкі цалкам зьвернутыя да Богадзіцяці Хрыста, і мы схіляемся перад веліччу Яго Божае любові, невымоўнай прамудрасьці і міласэрнасьці і разам з усёй Царквою славім Яго Нараджэньне.*

*Узьлюбленыя браты і сёстры!*

*Вялікае сьвята да многага нас абавязвае. Сьвяткаваньне Ражаства Хрыстовага павінна абудзіць у душы кожнага з нас самыя лепшыя, самыя ўзвышаныя пачуцьці. Мы павінны ўзрошчваць іх і памнажаць дзеля таго, каб жыцьцё нашае набыло сапраўдны сэнс, усталявалася на непарушным грунцьце, зрабілася годным нашага хрысьціянскага званьня.*

*У гэты сьветлы сьвяточны дзень не хацелася б шмат гаварыць аб сумным. Будзем памятаць, што ў жыцьці ўсё адбываецца па волі Божай, і тое, што адпушчана ўсім нам, - за грахі нашыя. Ускладзем сваю надзею на Міласэрнасьць Божую і ўзгадаем тую Ахвяру, якую прынёс за нас Ісус Хрыстос, і з радасьцю ў сэрцах зьвернем свае малітоўныя пагляды да Нованароджанага Богадзіцяці.*

*Госпадзь чакае ад нас, каб мы ладзілі сваё зямное жыцьцё, як падрыхтоўку да Жыцьця Вечнага, і каб нашае зямное жыцьцё зьявілася ўжо тут, на зямлі, пачаткам Вечнасьці.*

*Ад усяго сэрца віншую вас і ўсіх братоў-хрысьціянаў розных канфесій, што славяць Госпада на беларускай зямлі, са сьвятам Ражаства Хрыстовага і з Новым Годам! Няхай дасьць нам Госпадзь моцы, няхай блаславіць нас Госпадзь мірам! Амінь.*

Філарэт,
Мітрапаліт Менскі і Слуцкі,
Патрыяршы Экзарх
усяе Беларусі.




### КАЛЯДА, КАЛЯДА

## КОНСУЛ ПАДЗЯЛІЎСЯ АПЛАТКАЙ

Генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Горадні Мар'юш Машкевіч даў афіцыйны прыём у гонар каталіцкіх Калядаў. На прыём былі запрошаны прадстаўнікі гарадзкіх уладаў, камерсанты, прэса.

Чынны ўдзел падчас гэтага ўрачыстага мерапрыемства ўзяў біскуп Гарадзенскай каталіцкай дыяцэзіі спадар Аляксандр Кашкевіч. Менавіта спадар біскуп высьвяціў памяшканьне Генеральнага консульства ў Горадні, якое часова месьціцца ў будынку МГК "Маналіт" па адрасу вул.Будзёнага, 48-а.

Г.АСТРОЎСКІ.

## ХОР «БАЦЬКАЎШЧЫНА» ВІНШУЕ ПЕСЬНЯЙ

Падчас сьвяткаваньня каталіцкіх Калядаў хор стараДаўняй беларускай песьні "Бацькаўшчына" даў шэраг канцэртаў, прысьвечаных нараджэньню Выратавальніка. Далі канцэрты ў Бернардынскім і Фарным касьцёлах Горадні, а таксама павіншавалі ад імя беларускай каталіцкай грамады Горадні ксяндза Тадэвуша, які штонядзелю адпраўляе набажэнствы на беларускай мове.

Г.ГЕРАСІМОВІЧ.

## ВЫСТАВА Ў ГОНАР СЬВЯТА

У выставачнай зале Горадні адкрылася выстава, прысьвечаная калядняму фэсту на Гарадзеншчыне.

На выставе прадстаўлена больш як 70 твораў 24-ох гарадзенскіх мастакоў. Тут і жывапіс, і графіка, і скульптура, а таксама творы народнага рамяства.

Прэвалююць на выставе хрысьціянскія матывы.

Г.СТРУМЕНЬ.

### ВІНШАВАНЬНІ

## ШАНОЎНАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Вельмі шмат гістарычных і важных падзей адбылося ў нашым адыходзячым 1994-м годзе! Рэспубліка Беларусь ужо мае сваю Канстытуцыю, а таксама свайго першага, абранага на ўсенародных выбарах Прэзідэнта, які не хоча альбо саромеецца гутарыць на мілагучнай беларускай мове, ачольвае новы ўрад Беларусі і намагаецца стабілізаваць занядбаную да гэтага часу эканоміку Рэспублікі Беларусь ды належна рэпрэзентуе яе перад іншымі народамі сьвету. І мы з далёкай Аўстраліі жадаем Вам, Прэзідэнту А.Лукашэнка і ўсяму беларускаму народу, шчасьця і посьпехаў у 1995-м годзе!

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

З вялікай пашанай да Вас Алесь АЛЕХНІК,
Генеральны Сакратар Асацыяцыі беларусаў Аўстраліі.
г.Сіднэй.

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ, РЭДАКЦЫЯ «ПАГОНІ»!

Вашу газету выпісала зноў на 1-ае паўгоддзе, бо яна мне вельмі падабаецца. Жадаю ў новым годзе творчай актыўнасьці і посьпехаў у працы. Ад Салігорскай Рады БНФ віншую з наступаючым Новым годам.

Н.ЯРМАЛІНСКАЯ,
г.Салігорск.

### СПРАВА ТЫДНЯ

## АДСТАЎКА А.ФЯДУТЫ - НЕ СКОНЧАНАЯ СПРАВА Ў ГІСТОРЫІ «БЕЛЫХ ПЛЯМАЎ»

На прыканцы сьнежня грамадзкасьці, нарэшце, стала вядома, хто зьяўляецца аўтарам загада кіраўніцтву выдавецтва "Беларускі дом друку" не друкаваць газеты з дакладам Сяргея Антончыка. Усю адказнасьць за гэты загад і яго наступствы ўзяў на сябе начальнік упраўленьня Грамадзка-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Фядута.

Спадар Фядута лічыць, што паколькі ён не здолеў дакладна распарадзіцца сваёй уладай і тым самым падставіў прэзідэнта, а таксама таму, што Вярхоўны Савет і рэдакцыі рэспубліканскіх газет запатрабавалі пакараць віноўніка ў зьяўленьні "белых плямаў", то ў яго няма іншага выйсьця, як пайсьці ў адстаўку.

Аднак, казаць, што скандал вакол "белых плямаў" ўжо скончаны, на думку назіральнікаў, яшчэ рана. У выпадку, калі Фядута зрабіў чыстасардэчнае прызнаньне, а не згуляў ролю "немаўляці-ягняці", яго чакаюць сур'ёзныя непрыемнасьці.

Пракуратура мае законныя падставы ўзбудзіць крымінальную справу супраць А.Фядуты, а рэдакцыі газет - патрабаваць матэрыяльнай кампенсацыі.

## МІЖНАРОДНАЯ КАНФЕДЭРАЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ ПРАТЭСТУЕ І ЗАЯЎЛЯЕ

26 сьнежня ў Маскве выканаўчы сакратарыят Міжнароднай канфедэрацыі журналісцкіх Саюзаў прыняў Заяву.

У заяве, прынамсі, згадваецца: "Выказваем глыбокую заклапочанасьць у сувязі з фактамі парушэньня свабоды слова на Беларусі. Гэта сьведчыць аб маючымся ўціску друку, уключаючы інфармацыю аб дзейнасьці ўлады. Такі падыход супярэчыць міжнародным прававым нормам ў галіне інфармацыі.

Зьвяртаемся да вышэйшага кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь з просьбай перагледзець сваё рашэньне, забясьпечыць свабоду слова і права на інфармацыю. Заўляем калегам-журналістам аб сваёй прафесійнай салідарнасьці. Толькі сумесна мы здолеем супрацьстаяць спробам разгортваемага паўсюдна наступу на нашу незалежнасьць, на права чытачоў, гледачоў, слухачоў".

СІМ





# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ЗАЯВА
## АПАЗІЦЫІ БНФ У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ

Апошнім часам на фоне правалу так званай праграмы выхаду з крызісу ўзмацнілася актыўнасьць праімперскіх колаў Расеі і націск на Беларусь з дапамогай яе дыпламатычных службаў. Гэтаму ў многім спрыяюць невызначаныя, блытаныя выказваньні і заявы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якія часта пярэчаць Канстытуцыі Беларусі.

Абыгрываецца штучна створаная залежнасьць Беларусі ад расейскай нафты і газу, з боку Расеі ідзе адкрыты шантаж з патрабаваньнем перадачы ёй часткі ўласнасьці Беларускай дзяржавы. Больш таго, пэўныя віды маёмасьці (газапровады, нафтаперапрацоўчыя камбінаты, газасховішчы і інш.) патрабуюць перадаць расейскай прыватнай фінансава-тэхнічнай карпарацыі "Газпрам". Прыватны бізнес, які вызначае эканамічную палітыку ў суседняй дзяржаве, цягне рукі да Беларусі. З гэтай мэтай імперскімі сіламі на Ўсходзе ініцыіруюцца ідэі стварэньня так званых "мытнага саюзу", якім плануецца ліквідаваць дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, "эканамічнага саюзу" і "калектыўнай бясьпекі", расейскія эмісары і палітыкі патрабуюць свабоды дзейнасьці на Беларусі сваім фінансава-прамысловым саюзам і іншым расейскім манаполіям.

Першыя спробы Беларускай дзяржавы ў пошуку дадатковых крыніц сыравіны і энергазабесьпячэньня выклікалі імгненную рэакцыю Масквы. Ідзе мэтанакіраваная праца па ізаляцыі Беларусі ад вонкавага сьвету, у першую чаргу, ад нашых суседзяў, перспектыўных партнёраў. Менавіта ў гэтым сэнс "раскрыцьця" так званай шпіёнскай дзейнасьці дыпламатаў Польшчы і Турцыі ў Беларусі. Няўзброеным вокам відаць неадпаведнасьць заяўленых у прэсе "абвінавачаньняў" і рэзкіх дзеяньняў беларускіх дыпламатычных і спецыяльных службаў. Зразумела адно - варыянт такога скандалу ўжо даўно быў спланаваны за межамі Беларусі. У такой сітуацыі ў хуткім часе можна чакаць зьяўленьня "шпіёнаў" любой з дзяржаваў, з якой у Беларусі добрыя эканамічныя дачыненьні.

У гэтай сітуацыі, калі палітыку дзяржавы пачынаюць вызначаць "шматбаковыя" функцыянеры з КДБ (прычым, не вядома - з чыйго), насьцярожвае тое, што да сёньняшняга дня так і не прыняты закон КДБ, не ўступіў у сілу Закон аб дзяржаўных сакрэтах, адсутнічае закон аб друку і сродках масавай інфармацыі. Няма закона аб прэзідэнцe. У той жа час сілавыя ведамствы і прэзідэнт робяць што хочуць, папярэджваюць журналістаў аб забароне перадачы інфармацыі, а расейскія спецслужбы вызначаюць нашу палітыку.

Мы заклікаем Вярхоўны Савет разгледзець гэтае ненармальнае становішча, заняцца вызначэньнем унутранай і зьнешняй палітыкі, як гэтага патрабуе Канстытуцыя.

Мы, дэпутаты, якія ўваходзяць у Апазіцыю БНФ, выказваем сваю заклапочанасьць разьвіцьцём падзеяў у Дзяржаве. Мы не бачым канстытуцыйнага клопату прэзідэнта аб суверэнітэце краіны, абароне яе нацыянальных інтарэсаў, а наадварот, зьяўляемся сьведкамі разбуральнай дзейнасьці чужых сілаў, імкненьняў да паліцэйшчыны, сумбурнай адміністрацыі, мітусьні.

Мы выступаем з пазіцый нацыянальна-дэмакратычнай альтэрнатывы разбуральным антыбеларускім дзеяньням. Грамадзяне Беларусі павінны абараніць свой гонар, свае нацыянальныя інтарэсы, маёмасьць, культуру і дзяржаўную незалежнасьць Бацькаўшчыны.

**Дэпутаты Вярхоўнага Савета ад Апазіцыі БНФ: З.ПАЗЬНЯК, В.ГОЛУБЕЎ, Л.БАРШЧЭЎСКІ, С.НАВУМЧЫК, Г.СЯМДЗЯНАВА, А.ТРУСАЎ, А.ШУТ, І.ГЕРМЯНЧУК, П.ХОЛАД, Л.ЗДАНЕВІЧ, І.ПЫРХ, Б.ГЮНТАР, Л.ДЗЕЙКА, М.КРЫЖАНОЎСКІ, С.АНТОНЧЫК, С.ПАПКОЎ, М.МАРКЕВІЧ, У.ЗАБЛОЦКІ, Ю.БЕЛЕНЬКІ, В.КАКОЎКА, В.АЛАМПІЕЎ.**




## ЧОРНЫЯ ДРАБЫ ЗАКОН НЕ ПАРУШАЮЦЬ

15 сьнежня ў Лідзе а восьмай гадзіне раніцы сябрамі ад Беларускага Народнага Фронту і актывістамі мясцовай харугвы БЗВ каля КПП расейскай вайсковай часткі, што дагэтуль месьціцца ў горадзе, быў наладжаны пікет пад назовам "Рукі прэч ад Чачні".

Удзельнікі пікету трымалі два плакаты, якія ганьбілі імперскія захады маскоўскіх палітыкаў у адносінах да гэтай рэспублікі.

Расейскія афіцэры два разы спрабавалі парваць плакаты і разагнаць пікет, але Чорныя драбы не далі сябе пакрыўдзіць.

Адчуўшы сваю бездапаможнасьць, "доблесныя нашчадкі традыцый А.Суворава" выклікалі міліцыянтаў. "Стражы парадку" зьявіліся аж на трох варанках. Пасьля перамоў пікетчыкі ўтульна даехалі да пастарунку, дзе далі тлумачэньні, што іх не трыста, як ад страху здалося расейскім афіцэрам, а ўсяго чацьвёра.

Начальнік пастарунку на допыце вярнуў плакаты пікетчыкам,дадаўшы, што яны яшчэ спатрэбяцца ім.

**С.СУДНІК.**

## НАША СІЛА - Ў ЯДНАНЬНІ

Скончылася доўгая парламенцкая восень. Нарэшце, Вярхоўны Савет прыняў новую версію Закона аб выбарах, і ў хуткім часе будзе абвешчана дата іх правядзеньня. Калі ўлічыць, што гэта адбудзецца не раней, чым 14 траўня, то новы парламент распачне працу не раней чэрвеня. Новая рэдакцыя старога выбарчага закона паставіла крыж на зьмешанай выбарчай сістэме і зьвяла да мінімума ролю ўдзелу ў іх шматлікіх беларускіх партый, колькасьць якіх дасягае 30.

Пад самы канец абмеркаваньня вышэйзгаданага Закона з падачы мясцовай раённай наменклатуры, камуністаў і сацыялістаў з трэцяга разу ў Закон аб выбарах была ўнесена папраўка, у адпаведнасьці з якой партыя на сваім зьезьдзе можа вылучыць у выбарчую акругу аднаго кандыдата толькі тады, калі на яе тэрыторыі дзейнічае зарэгістраваная пярвічная структура гэтай партыі.

Такім чынам, у выбарчыя сьпісы ў Менску і абласных гарадах трапяць практычна ўсе кіраўнікі беларускіх партый, а вось у сельскіх акругах будуць дзейнічаць у асноўным камуністы ды аграрная партыя Шарэцкага. І пакуль дэмакраты ў сталіцы будуць адбіраць адзін у другога галасы выбаршчыкаў, былая і сёньняшняя камуністычная наменклатура, падмацаваная "прэзідэнцкай" вертыкальлю, рушыць у новы Вярхоўны Савет праз вясковыя акругі, каб зноў скласьці большасьць у парламеньце беларускае дзяржавы і замацаваць тыя прывілеі, якія яна ўжо захапіла. Зноў будуць аддавацца "вясковым" дэпутатам шыкоўныя кватэры ў Менску. У той час, як дзяржаўнае будаўніцтва ў нашай сталіцы практычна спыняецца, вакол горада вырастуць катэджы новых членаў Прэзідыума.

Для таго, каб гэтага не здарылася і каб у парламент прыйшлі людзі, для якіх галоўнае - не ўласны дабрабыт, а інтарэсы нашай Бацькаўшчыны, дэмакратычныя сілы Беларусі павінны выступіць зьяднана і мэтанакіравана.

Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада выступае за стварэньне шырокага блока дэмакратычных сіл на тэрыторыі ўсёй Беларусі. Галоўнымі прынцыпамі яго павінны быць: набыцьцё сапраўднага суверэнітэту, перш-наперш, у галіне зьнешняй палітыкі і эканомікі, выхад з ганебнай дамовы аб калектыўнай бясьпецы і пошук альтэрнатыўных крыніц энерганосьбітаў на рынках Заходняй Эўропы і Азіі; увод сапраўднай беларускай валюты і спыненьне інфляцыі; радыкальная зямельная рэформа, у выніку якой кожны грамадзянін Беларусі павінен атрымаць у прыватную ўласнасьць не меней, чым 15 сотак зямлі; стварэньне сярэдняга класу на Беларусі шляхам рыначных рэформаў і падвышэньне сярэдняга месячнага заробку грамадзян Беларусі да 100-150 долараў у пераліку на нацыянальную валюту на працягу 2-3 год; адбудова беларускай культуры, адраджэньне дзяржаўнай мовы, вяртаньне вернікам усіх канфесій іх страчанай маёмасьці; поўная свабода ўсіх сродкаў масавай інфармацыі пры іх аднолькавай дзяржаўнай падтрымцы; выбарнасьць мясцовых кіраўнікоў толькі непасрэдна народам; скасаваньне абласных структур кіраваньня.

У выніку папярэдніх перамоў, якія вядуцца з кастрычніка паміж дэмакратычнымі партыямі і рухамі, ўвайсьці ў шчыльны перадвыбарчы блок, калі ў кожнай акрузе будзе вылучаны адразу толькі адзін агульны кандыдат, ужо пагадзіліся БНФ, Грамада, НДПБ і ХДЗ.

Пасьля сьнежаньскіх зьездаў і канферэнцый сваё апошняе слова скажуць АДПБ, БСП і ПНЗ. Мы спадзяемся, што ўбаку ад дэмакратычнага блока не застануцца такія вядомыя палітыкі, як Станіслаў Шушкевіч і Станіслаў Багданкевіч, а таксама ТБМ і БЗВ. Толькі разам можна перамагчы на выбарах, толькі разам можна ў XXI ст. стаць сапраўднай эўрапейскай дзяржавай.

**Алег ТРУСАЎ,**
**Старшыня Цэнтральнай Рады БСДГ,**
**дэпутат ВС РБ.**

## РАСЕЯ, РУКІ ПРЭЧ АД ЧАЧНІ!
## ЗАЯВА

**Гарадзенскай харугвы "Грунвальд" патрыятычнага руху "Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў" (БЗВ)**

Расейскі імперыялізм у чарговы раз паказаў сьвету сваё сапраўднае аблічча. На гэты раз яго ахвярай стала маленькая і шматпакутная, але нязломная, свабодалюбівая і гордая Чачня. Незьлічонымі ахвярамі ўсланы шляхі гэтага народа да свабоды і незалежнасьці. Сёньня, калі гэтая свабода стала явай, яе зноў топча каваны бот расейскага заваёўніка. Сумленныя людзі сьвету ўзьнімаюцца на абарону Чачні. У сувязі з гэтым гарадзенская харугва "Грунвальд" патрыятычнага руху БЗВ заяўляе свой рашучы пратэст супраць расейскай агрэсіі ў Чачню.

1. Мы патрабуем спыніць агрэсію расейскіх войск і вывесьці іх за межы Чачні.

2. Мы падтрымліваем патрыётаў Чачні і ўсяго Каўказа, якія сёньня са зброяй у руках абараняюць незалежнасьць сваёй Радзімы.

3. Мы зьвяртаемся да маці і бацькоў расейскіх жаўнераў. Вашых дзяцей пагналі на несправядлівую вайну. Рабіце ўсё магчымае, каб вярнуць іх, інакш адтуль яны вернуцца ў трунах альбо забойцамі з рукамі, амытымі крывёю мірных жыхароў.

4. Мы зьвяртаемся да ўрадаў сьвету. Дзе вы, якія на кожным рагу крычыце аб правах чалавека, а сёньня патураеце вялікадзяржаўнаму монстру таптаць правы цэлага народа.

5. Мы зьвяртаемся да ўсіх свабодалюбівых людзей. Сёньня топчуць свабоду Чачні, заўтра могуць растаптаць свабоду кожнага з вас.

6. Беларусы, пасьля Чачні можа наступіць наша чарга. У нашай свабоды сёньня адзін гарант - мужнасьць жаўнераў генерала Дудаева.

7. Мужныя сыны Каўказа, патрыёты Беларусі з вамі.

Жыве Чачня!
Жыве Беларусь!
Жыве свабода!

## РЫХТУЕМСЯ ДА ВЫБАРАЎ

На факультэце беларускай філалогіі і культуры ГрДУ адбылося пашыранае пасяджэньне сяброў Таварыства беларускай мовы.

На пасяджэньні былі вызначаны два асноўныя пытаньні - падрыхтоўка да выбараў і выкананьне ў межах вобласьці закона аб мовах.

Па абодвух пытаньнях з прамовай выступіў старшыня ТБМ спадар Станіслаў Суднік.

**Г.А.**

## БЗВ ВЫЗНАЧАЕ ПРЫЯРЫТЭТЫ

Адбылося справаздачнае пасяджэньне сяброў гарадзенскай харугвы "Грунвальд" патрыятычнага руху БЗВ. Зазначана, што, акрамя Гарадзенскай харугвы, ў вобласьці яшчэ заснавана пяць адзінак патрыятычнага руху БЗВ. Гэта лідзкая харугва "Гедэмін", слонімская "Язэп Стаброўскі", зельвенская "Сьвяты Юры", ваўкавыская "Ваўкалака", смаргонская "Крэўская" і сьвіслачская харугва "Вежа".

Вырашана, што праз два тыдні сябры Гарадзенскай харугвы наноў зьбяруцца, каб вызначыць прыярытэты сваёй дзейнасьці.

У пасяджэньні сяброў патрыятычнага руху БЗВ Горадні ўзялі ўдзел прадстаўнікі дэмакратычных партый і рухаў горада.

**Г.Д.**

## СЬНЕЖАНЬСКІ СОЙМ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

10 сьнежня 1994 года ў Менску ў штаб-кватэры БНФ адбыўся Сойм БНФ "Адраджэньне".

На пасяджэньні Сойму былі разгледжаны наступныя пытаньні:

1. Разьвіцьцё палітычных працэсаў на Беларусі.
2. Падрыхтоўка да выбараў.
3. Зацьверджаньне Старшыні камісіі СБА.

**(Ул.інф.)**

## ПРЫСЯГНУЛІ НА ВЕРНАСЬЦЬ РАДЗІМЕ

У 28-м Вайсковым корпусе, кашары якога месьцяцца ў Горадні, адбылася прысяга маладога папаўненьня Беларускага войска.

Прызыўнікі да гэтага прайшлі падрыхтоўчы курс "маладога жаўнера" і пасьля прысягі на вернасьць Радзіме будуць разьмеркаваны па вайсковых частках.

Сёлета на Гарадзеншчыне восеньскі вайсковы прызыў праходзіў па тэрытарыяльнаму прызнаку.

**Г.ГАРАДЗЕНЕЦ.**



## СУМЕЖЖА

### ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

У Беластоку ў памяшканьні Філіяла Варшаўскага ўніверсітэта прайшоў нечарговы сход Беларускага саюза Польшчы. Беларускі саюз ствараюць Беларускае аб'яднаньне студэнтаў, Зьвяз беларускай моладзі, Беларускае дэмакратычнае аб'яднаньне, Асацыяцыя беларускіх журналістаў, беларускае літаратурнае аб'яднаньне "Белавежа", Беларускае гістарычнае таварыства і Праграмная рада тыднёвіка "Ніва".

Найважнейшым пунктам пасяджэньня была зьмена ўлады БС. Старшыня БС Пётр Юшчук папрасіў вызваліць яго з пасады па сямейных абставінах.

Новым старшынёй БС абраны настаўнік гісторыі Гайнаўскага Беларускага ліцэя Яўген Вапа.

* * *

Шэф Управы Рады Міністраў Міхал Стронк падтрымаў законнасьць пастановы свайго папярэдніка Яна Марыі Ракіты ад верасьня 1993 года ў справе перадачы Супрасьльскага кляштара Праваслаўнай царкве.

Мінулагодняе рашэньне УРМа апратэставалі Каталіцкая курыя ў Беластоку і Ордэн базыльянаў у Варшаве.

* * *

У барацьбе з мытнай злачыннасьцю на мяжы лідыруе мытня Беластока. У першай палове 1994 года мытная ўправа ўзбудзіла 1529 крымінальных спраў. На наступных месцах па ўзбуджэньню іскаў знаходзяцца мытні ў Цераспалі - 1308 спраў, і ў Жэпіне - 861 справа.

* * *

У Беластоку адбылася сустрэча прадстаўнікоў Найвышэйшай кантрольнай палаты Польшчы (НКП) і Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь.

Перамовы тычыліся галоўным чынам супрацоўніцтва ў галіне кантролю памежных зонаў, бязьвізавага пераходу жыхароў прыгранічных раёнаў з Беларусі да Польшчы і наадварот. Таксама абмяркоўваліся пытаньні стварэньня і хутчэйшага ўводу да справы новых памежных пераходаў.

Вядома, што на Беларусі і ў Беластоцкім ваяводзтве Польшчы шмат разыдзеных мяжой сваякоў, якія жадалі б наведваць родных без візавай адзнакі ў пашпарце. Афіцыйнага камунікэ пасьля сустрэчы не было надрукавана.

### АЛЬБО PAL, АЛЬБО КОЛЕР ПРАПАЎ

Аб тым, што польскае тэлебачаньне рыхтуецца да пэўнай тэхнічнай зьмены, было вядома ўжо два гады таму. Гаворка ішла аб пераходзе з існуючай у краіне сістэмы перадачы каляровай выявы SECAM у агульнаэўрапейскую сістэму PAL.

Нарэшце, стала вядома, што гэта адбудзецца з 1 студзеня будучага года і пакуль будзе тычыцца толькі першай праграмы польскага тэлебачаньня. Таму тэлеглядачы заранёў былі праінфармаваны, што тыя з іх, хто мае тэлевізары старой канструкцыі (г.зн., без блока PAL), будуць прымаць "адзінку" ў чорна-белым варыянце. Выснова: альбо купляць сучасны апарат, альбо ў стары ўмантаваць блок PAL.

Вядома ж, гэта датычыцца і тых беларускіх (летувіскіх і г.д.) тэлеглядачоў, хто пражывае ў зоне прыёма 1-ай польскай праграмы. Да таго ж, было сказана, што сістэма PAL больш якасная, чым цяперашняя SECAM.

М.ГАРДАНАЎ.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ЛЮБЛІНЕ

У Любліне адбылася міжнародная канферэнцыя пад назвам "Нацыянальная і рэлігійная самаідэнтыфікацыя і справы нацыянальных і рэлігійных меншасьцяў у Сярэдне-Усходняй Эўропе". У гэтай канферэнцыі ўзялі ўдзел навукоўцы з Эстоніі, Летувы, Беларусі, Украіны, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Харвацыі, Венгрыі і Румыніі.

Плённа працавалі 6 секцый: атласаў і статыстыкі, гістарычная, паліталагічная, права, філасофска-тэалагічнага дыялога і псіха-сацыялагічная.

Беларускую дэлегацыю складалі гісторыкі, філосафы, палітыкі і правазнаўцы: Валянціна Грыгор'ева, Алена Філатава, Алег Трусаў, Сьвятлана Сяльверстава, Захар Шыбока, Аляксандр Смаляччык, Аляксандр Білых, Уладзімір Конан, Балеслаў Харкевіч, Сьвятлана Палуцкая, Сяргей Абляме
йка, Сяргей Яцкевіч, Людміла Навуменка. Таксама былі прадстаўлены навуковыя ўстановы Менска, Гародні, Берасьця. За два дні плённай працы і плянарных секцыйных пасяджэньняў упершыню навукоўцы з краін былога лягеру сацыялізма і з былой тэрыторыі СССР змаглі абмяняцца думкамі і высьветліць погляды на тыя нацыянальныя і рэлігійныя праблемы, якія пакінулі іх краінам у спадчыну таталітарныя рэжымы і савецкая ідэалогія. Варта адзначыць, што працоўнымі мовамі канферэнцыі, акрамя ангельскай, былі ўсе славянскія мовы ўдзельнікаў, у тым ліку і беларуская. Пры абмеркаваньні вынікаў канферэнцыі было вырашана надрукаваць даклады, што прагучалі і былі абмеркаваныя на пасяджэньнях у секцыях у выглядзе асобнага зборніка.

А.ТРУСАЎ.

*Лістапад быў, можна сказаць, багатым месяцам для беларусаў- віленчукоў. На пачатку месяца, у дзень Дзьмітрыеўскіх дзядоў, на праваслаўных Эўфрасіньеўскіх могілках адбылося адкрыцьцё помніка Паўлу Карузе, аднаму з тых грамадзкіх і культурных дзеячаў, імёны якіх яшчэ не так даўно калі не абліваліся брудам, то замоўчваліся. Да іх ліку адносіцца і Браніслаў Тарашкевіч, мемарыяльная дошка якому была адкрыта 9 лістапада. На адкрыцьцё апошняй прыехаў з Менска Васіль Быкаў.*

*Помнік на месцы пахаваньня Паўла Карузы пабудаваны намаганьнямі Віленскага Таварыства Беларускай Культуры. Зрабіў яго ў форме бюста беларускі скульптар, які жыве і працуе на Віленшчыне, Эдвард Падбярэзскі. Шыльду ж Браніславу Тарашкевічу фундавала "Бацькаўшчына", а выканаў яе менскі скульптар Алесь Міронча
к. Дарэчы, ён зьяўляецца аўтарам ужо не першай такой шыльды ў Вільні. На адкрыцьці шыльды Браніславу Тарашкевічу выступіў спадар Лявон Луцкевіч, сын Антона Луцкевіча, аднаго з заснавальнікаў у Вільні першай беларускай газеты "Наша Ніва", які добра ведаў Браніслава Тарашкевіча, сябраваў з ім. Я папрасіў спадара Лявона падзяліцца думкамі і ўспамінамі.*



## ЗАСТАНЕЦЦА Ў ПАМЯЦІ НАШЧАДКАЎ

- Я не магу сказаць, што асабіста ведаў Браніслава Тарашкевіча, бо яго найбольш актыўная дзейнасьць у Вільні прыпадае на дваццатыя гады. Тады я быў яшчэ дзіцём, і ўспаміны мае, безумоўна, дзіцячыя. Я памятаю, што спадар Браніслаў вельмі часта бываў у нашым доме, калі мы жылі на Віленскай вуліцы. Ён пакідаў вельмі прыемнае ўражаньне: быў мілы, далікатны, з пачуцьцём гумару. Добра памятаю і яговую жонку, спадарыню Веру. Гэта была маладая і вельмі прыстойная кабета. Яна была дачкой беларускага архітэктара і краязнаўцы мінулага стагоддзя. Дарэчы, яна яшчэ і цяпер жыве ў Радашкавічах. У 1925 годзе ў Тарашкевічаў нарадзіўся сын Радаслаў. Але яго я амаль не памятаю. 19-гадовым юнаком Славік пайшоў у партызаны, не ведаючы, што на ягонага бацьку навешаны ярлык "вораг народа". Неўзабаве загінуў. Пры якіх абставінах і чыя куля скасіла хлопца - не вядома. А жывых сьведкаў штораз менш.

Спадар Браніслаў быў знаёмы з маім бацькам яшчэ ў той час, калі вучыўся ў Вільні ў гімназіі. Ён ужо тады быў у кантакце з беларускім асяродкам, які канцэнтраваўся вакол рэдакцыі "Нашай Нівы". Цеснае супрацоўніцтва майго бацькі з Тарашкевічам прыпадае на дваццатыя гады, калі адбывалася перадвыбарчая кампанія ў Сойм, а бацька быў старшынёй выбарчага камітэту. Тады Тарашкевіча выбралі дэпутатам у Сойм. Я маю здымак з таго часу: у цэнтры Тарашкевіч і бацька - абодва лысыя, з вусікамі. Наколькі памятаю, над пісьмовым сталом бацькі засёды вісеў партрэцік спадара Браніслава. Вісіць ён цяпер і над маім сталом. На адвароце подпіс, што выканаў яго мастак Арлоўскі яшчэ ў 1912 годзе.

- Браніслаў Тарашкевіч - выхадзец з Віленшчыны, дзейнасьць якога зьвязана з Вільняй. Гэта агульнавядомыя факты, і ў меншай меры я хацеў бы гаварыць пра гэта. Агульнавядома таксама, што наш зямляк быў усебаковым дзеячом. Якія ягоныя дасягненьні можна было б лічыць галоўнымі?

- Па-першае, Тарашкевіч вядомы як навуковец. Ён стварыў першую навукова апрацаваную "Беларускую граматыку для школ". Выйшла яна ў Вільні ў 1918 годзе. Пазьней яна шмат разоў перавыдавалася. Па ёй здабывалі грамату многія пакаленьні. Я сам таксама вучыўся ў Віленскай гімназіі па гэтай граматыцы. Асноўныя прынцыпы беларускага правапісу і граматыкі Тарашкевіча захавалі сваю актуальнасьць да сённяшняга дня. І тое, што шматлікія газеты і часопісы ў Беларусі вярнуліся да "тарашкевіцы", што ёю карыстаюцца ў Вільні, а таксама на эміграцыі, сьведчыць аб неўміручасьці яго імя да навуковых здабыткаў.

Тарашкевіч як літаратар пераклаў на родную мову "Іліяду" Гамера і "Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча.

Тарашкевіч як аратар праявіў вялікія здольнасьці, будучы дэпутатам у Сойм, дзе, выступаючы, бараніў інтарэсы беларускага народа Заходняй Беларусі.

Тарашкевіч як палітык быў вельмі актыўным на працягу ўсяго свайго сьвядомага жыцьця, ягоныя арганізатарскія здольнасьці цяжка пераацаніць. Мабыць, не памылюся, калі скажу, што найбольшым ягоным дасягненьнем было стварэньне Беларускай сялянска-рабочай грамады. Вясной 1926 года гэтая арганізацыя налічвала звыш 120 тыс.членаў. Некаторыя гісторыкі лічаць такую падтрымку з боку люду для Грамады палітычным фенаменам.

Браніслаў Тарашкевіч - адзін з найбольш яскравых беларускіх інтэлектуалаў. Гэта незвычайна цікавая і абаяльная постаць у гісторыі адраджэнскага руху і адначасова вельмі трагічная. Як асьветнік і вучоны, як педагог і пісьменьнік зрабіў Тарашкевіч надзвычай многа. Яго імя застанецца ў памяці нашчадкаў, у памяці землякоў-беларусаў.

Уладзіслаў СТРУМІЛА.

НА ЗДЫМКУ: сям'я ТАРАШКЕВІЧАЎ у 1925 годзе.

### ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

### РАСЕЙСКАЯ МОВА ЎЖО НЕ ТУРБУЕ СЕЙМ

Сейм Летувы пачаў абмеркаваньне праекта новага закона аб дзяржаўнай мове. "Дзяржава павінна абараніць сябе ад умяшаньня чужой культуры", - сказаў старшыня камітэта Сейма па адукацыі, навуцы і культуры Б.Гендзэліс. Па яго словах, аналагічны закон, прыняты ў 1989 годзе, састарэў, бо пяць гадоў таму галоўным было "ўраўнаваць летувіскую мову ў правах з расейскай".

Зараз небясьпека для летувіскай зыходзіць не ад расейкай, а ад іншых моваў. "У Клайпедзкім краі шмат надпісаў выканана па-немецку, у Вільні - па-ангельску", - адзначыў Б.Гендзэліс.

### ТЭРАРЫСТЫ МОГУЦЬ ЗРАБІЦЬ НАПАД НА АЭС

З надзейных крыніц стала вядома, што дзярждэпартамент ЗША рэкамендаваў ураду Летувы ўзмацніць ахову Ігналінскай АЭС.

Па дадзеных спецслужбаў ЗША, прэзідэнт Чачні Д.Дудаеў даў указаньне зьдзяйсьніць напады на атамныя электрастанцыі Расеі. Факт наступленьня папярэджаньня з Вашынгтона пацьвердзіў міністр аховы краю Л.Лінкявічус. Па яго словах, аб'ект надзейна ахоўваецца спецыяльным батальёнам летувіскага войска.

### НАЦМЕНШАСЬЦІ АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА Ў ПАРТЫЮ

У Летуве вядзецца работа па стварэньні партыі нацыянальных меншасьцяў, пра што паведаміла агенцтва "Эльта". Стаць яе сябрамі выказалі жаданьне прадстаўнікі расейскай, украінскай, польскай, беларускай, татарскай, караімскай і грэчаскай абшчын - грамадзяне краіны, якія жывуць у Вільні і Віленскім раёне, Коўне, Клайпедзе, Шаўлі, Паневежысе, Вісагінасе, Укмерге, Йонаве.

Партыя будзе дамагацца сваіх мэтаў удзелам у выбарах у Сейм і самакіраваньні, выбарах прэзідэнта, прапагандай сваёй дзейнасьці ў друку, супрацоўніцтвам з аналагічнымі партыямі іншых краін. Падрыхтаваны праект статута і праграмы партыі, робяцца прапановы і дапаўненьні да іх. Плануецца, што зьезд новай партыі будзе скліканы 10 студзеня.

### РАССЬЛЕДАВАНЬНЕ ЗАКОНЧАНА

Генеральная пракуратура Летувы аб'явіла аб заканчэньні сьледзтва па справе аб студзеньскіх і жнівеньскіх падзеях 1991 года. Абвінавачваемыя прыступілі да азнаямленьня з матэрыяламі справы, у якой каля 300 тамоў. Мяркуецца, што гэта зойме два-чатыры месяцы. У справе шмат дакументаў, якія выцягнуты з вогнішча, што гарэла ў двары будынка ЦК КПЛ. Па справе праходзяць больш за 50 чалавек, членаў ЦК КПСС - ЦК КПЛ, значная частка іх зараз жыве ў Расеі і Беларусі.

Расея адмовілася выдаць Летуве абвінавачваемых, матывуючы сваё рашэньне тым, што яны зьяўляюцца грамадзянамі Расеі. Беларусь сьцьвярджае, што не ведае, дзе знаходзяцца пэўныя адшукваемых, хаця Генпракуратуры Летувы дакладна вядома, што яны жывуць менавіта там.

Дадзеная справа, магчыма, самая буйная ў гісторыі Летувы: пацярпелых - больш тысячы, сьведак - больш дзьвюх тысяч.

І.R

ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

# ФАРНЫЯ КАТАЛІЦКІЯ МОГІЛКІ Ў ГОРАДНІ

**Горадня на працягу свайго тысячагадовага існаваньня адыгрывала не апошнюю ролю ў дзяржаўным жыцьці. Росквіты зьмяняліся заняпадамі. За смугою часу хаваюцца цікавыя і славутыя старонкі, якія, на жаль, не ўсе мы добра ведаем. Час заціраe ў нашай памяці вельмі важнае, а часта і сьвятое. Гісторыя не бывае нецікавай, хутчэй занядбанай і забытай. Паспрабуем жа зазірнуць ў сівыя стагоддзі і адгарнуць адну са старонак мінуўшчыны.**





Сярод помнікаў гісторыі і культуры гарадоў асобна вылучаюцца могілкі. Яны былі не толькі месцам пахаваньня, але і месцам ушанаваньня памяці памерлых. На іх узводзяцца гранітныя, мармуровыя, чыгунныя надмагільныя помнікі, некаторыя ўяўляюць сабой значную мастацкую каштоўнасьць. Так нараджаюцца некропалі ці "гарады памерлых".

Некропалі зьявіліся ўжо ў старажытным Егіпце. У Рыме існавалі спецыяльныя могілкі на Эксвілінскіх узгорках для рабоў, злачынцаў і г.д. Хрысьціяне хавалі сваіх продкаў спачатку ў катакомбах, а толькі потым замацавалася традыцыя пахаваньня ў храмах і іх дварах. Так, у кожным горадзе побач з царквой ці касьцёлам альбо ў раёне шчыльнай асады той ці іншай нацыянальнай абшчыны разьмяшчаліся могілкі. Найбольш вялікімі могілкамі ў сярэдневечнай Горадні былі каталіцкія парафіяльныя, што знаходзіліся каля Фарнага касьцёла ці так званай Фары Вітаўта.

У XVII-XVIII ст.ст. адзначаецца рост эўрапейскіх гарадоў, павелічэньне колькасьці іх насельніцтва. Таму паступова могілкі з тэрыторыі храмаў і іх двароў пераносяцца па-за гарадзкія межы па санітарных меркаваньнях. У 1776 годзе быў выдадзены вердыкт караля Францыі аб неабходнасьці пераносу могілак з гарадзкіх межаў. У 80-90-я гады XVIII ст. падобны працэс закранае гарады Рэчы Паспалітай. У 1782 годзе евангельская абшчына Варшавы засноўвае могілкі за мяжой горада, а ў 1790 г. паўстаюць Паванзкоўскія могілкі. У 1791 г. Камісія Паліцыі Рэчы Паспалітай выдае распараджэньне, абавязковае для ўсіх гарадоў, аб пераносе могілак за гарадзкія межы. У траўні 1792 года гарадзенскія фарныя каталіцкія могілкі былі перанесены з Рынку на ўсходнюю ўскраіну горада. Разьмясьціліся яны на высокім беразе Нёмана. Магіл канца XVIII ст. фактычна не захавалася, хаця штогод тут хавалася каля сотні чалавек. На месцы сьціплых магіл з драўлянымі крыжамі ў наступных стагоддзях узводзяцца шыкоўныя мураваныя помнікі. Самым старым з захаваўшыхся надмагільных помнікаў зьяўляецца помнік у форме абеліска памерлай у 1799 годзе Уршум Вянгерскай. Мода на падобную форму помнікаў існавала з даўнейшых часоў. Старажытныя грэкі будавалі на могілках продкаў статуі і стэлы з выявамі памерлых, егіпцяне - абеліскі. У XI ст. у Эўропе зьяўляюцца надмагільлі ў форме тумбы. І толькі ў канцы XVIII-пачатку XIX ст.ст. зноў вяртаецца надмагільная форма абеліск.

Дамінуючае становішча над усёй прасторай могілак займае капліца. Першапачаткова ў канцы XVIII-пачатку XIX ст.ст. у цэнтры гарадзенскіх фарных могілак стаяў вялікі драўляны крыж, які ў 1821-22 г.г. зьмяніла мураваная капліца. З апісаньня пра яе вынікае, што гэта быў невялікі аднаапсідны храм. Яго фасад упрыгожвалі чатыры паўкалоны. Вежы-званіцы ў капліцы не было. Над дахам узвышаліся два жалезныя крыжы. Непадалёк знаходзілася драўляная званіца на 4-х слупах, з трыма званамі рознай вагі. Хутчэй за ўсё яна была разабраная на пачатку XX ст., калі ў 1907 г.да капліцы дабудавалі вежу-званіцу. У такім выглядзе капліца дайшла да нашага часу.

Аўтар праекта капліцы архітэктар Карл Багемюль - немец па паходжаньню. Талент і мастацкія здольнасьці маладога Багемюля выявіліся яшчэ ў юнацтве. У 1799 г., маючы 17 гадоў, ён скончыў Берлінскую Акадэмію. Потым Багемюль працуе пры двары прускага караля "архітэктурным кандуктарам". У 1806 годзе Карл Багемюль накіроўваецца ў Расейскую імперыю, дзе доўгі час працуе на прыватныя заказы. Лёс зводзіць яго з Горадняй і Гарадзеншчынай. У 1811-1825 г.г. Багемюль займае даволі салідную па тых часах пасаду Гарадзенскага губернскага архітэктара. Памёр ён у 1828 годзе. Не выключана, што тут ён і быў пахаваны.

Фундатарам капліцы быў упраўляючы Гарадзенскім брыгідзкім кляштарам Казімір Судніцкі. Чалавек ён быў неардынарны. Не шкадаваў ён грошай ні на будаўніцтва, ні на адукацыю. Перад сьмерцю, а памёр ён у 1815 г., Судніцкі вызначыў пэўную суму на ўтрыманьне невялікай школы пры дамініканскім гарадзенскім кляштары для дзяцей з небагатых шляхецкіх сем'яў. Пахаваны ён быў ў склепе капліцы, на якую і фундаваў грошы. На жаль, склеп цяпер пусты.

Надмагільныя помнікі - гэта адначасова знак ушанаваньня продкаў і ў некаторых выпадках мастацкі твор, у які майстар укладаў сваю душу. Сярод прозьвішчаў скульптараў на могілках сустракаем В.Баброўскага, Й.Забароўскага, А. Сакалоўскага, Андрэя і Васіля Качаноў, Г.Кушэса, Балеслава і Раманія Шышкевічаў. Помнікі гэтых майстроў сустракаюцца на многіх могілках Гарадзеншчыны. Але не толькі гэтыя, пераважна гарадзенскія скульптары, пакінулі свой сьлед у гісторыі некропаляў. Да іх ліку адносяцца: А.Санькоўскі з Індуры, Б.Сабалеўскі з Вільні, Дэ Вэкі з Кіева, Р.Любавецкі з Варшавы і іншыя.

Найбольш славутым скульптарам, безумоўна, лічыцца Балеслаў Шышкевіч. Шышкевічы - шляхецкі род з Ваўкавыскага павета. Дзед славутага скульптара Юзаф Шышкевіч зямлі не меў, і таму яго дзеці, у тым ліку і бацька Балеслава Ян, былі вымушаны шукаць сваё шчасьце і кавалак хлеба па-за родным гняздом. Рэалізаваць сябе ў XIX ст. можна было толькі праз кар'еру чыноўніка. Ян Шышкевіч працаваў канцэлярыстам Ваўкавыскага гарадзкога магістрата, а потым - Ваўкавыскага павятовага суда. Прыкладна ў 1864 г. (дакладная дата пакуль што невядомая) у сям'і Яна нарадзіўся сын. У 1874-78 г.г. ён вучыцца ў Ваўкавыскім павятовым вучылішчы. У 1878 г. за слабыя посьпехі ў вучобе быў пакінуты на трэці год у другім класе, а потым і зусім выключаны. У другой палове 80-х гадоў XIXст. пасьля вучобы лёс зьвязвае Балеслава, мастацкія здольнасьці якога ўжо выявіліся, з Горадняй. Тут на вуліцы Ерусалімскай, 26 (цяпер Антонава) у доме Ёўны Сідэльскага разьмясьцілася майстэрня Шышкевіча. Дарэчы, праваслаўныя могілкі па вул. Ерусалімскай ў гарадзкіх інвентарах праходзілі пад N 27, а каталіцкія - пад N 31. Майстэрня фактычна суседнічала з могілкамі.

Шмат цудоўных надмагільных помнікаў пакінуў пасьля сябе Балеслаў Шышкевіч, хаця сучасны пункт гледжаньня на яго творчасьць і спадчыну як выдатнага скульптара не зусім адпавядаў меркаваньням яго сучасьнікаў. Шышкевічу даводзілася часта "змагацца" з непаразуменьнем і зайздрасьцю рамесьнікаў печна-мулярскага цэха, якія прымушалі яго ўступіць у цэх пад пагрозай забароны працы. Толькі дзякуючы заступніцтву гарадзенскага губернатара Шышкевіч атрымаў магчымасьць спакойна і плённа працаваць. Памёр ён вельмі маладым, у 29-гадовым узросьце, і быў пахаваны на тых самых каталіцкіх могілках.

Адкуль прывозілі матэрыял для гарадзенскіх скульптурных майстэрняў? Не выключана, што з тэрыторыі Ўкраіны. Значныя кар'еры цьвёрдых каменных парод знаходзіліся ў Жытомірскай, Віньніцкай і іншых губернiях.

Алейкі і сьцяжынкі гарадзенскіх каталіцкіх могілак упрыгожваюць літыя чыгунныя помнікі, каваныя крыжы і агароджы. Упершыню на могілках яны зьяўляюцца ў 30-40-я гады XIX ст. Чыгун уваходзіць у моду. У 1829 г. у Пецярбурзе адбылася 1-я прамысловая выстава статуарнай адліўкі. З чыгуна адліваюць помнікі рознай формы, пастаменты для іх, агароджы. Магчыма, што чыгунныя помнікі прывозілі з-за межаў Беларусі. Тэхнічная рэвалюцыя, разьвіцьцё рынка ў другой палове XIX ст. прыводзяць да закрыцьця чыгуна-ліцейных прадпрыемстваў, што працавалі на мясцовай сыравіне. Новыя заводы карыстаюцца больш таннай і якаснай прывазной сыравінай і металам. На чыгуна-ліцейных прадпрыемствах Гарадзеншчыны выраблялі як чыгунныя помнікі і агароджы, так і каваныя крыжы і агароджы. Сярод іх чыгуна-механічны завод Пуслоўскага ў Альбярціне, сьлясарна-механічныя майстэрні братоў Гальскіх у Горадні, чыгуна-ліцейны завод Вячорка ў Беластоку і Файнгольда ў Горадні, Шмідта ў Берасьці і інш.

Чыгунныя помнікі і агароджы ёсьць і на гарадзенскіх могілках, хаця ў параўнаньні з надмагільлямі, зробленымі з каменнага матэрыялу, захавалася не шмат. Магчыма, гэта залежыла ад моды, попыту і коштаў. У 1886 годзе прадпрыемства Шмідта выпусьціла толькі 50 помнікаў, кожны з якіх каштаваў па 25 рублёў, а завод Пуслоўскага рабіў чыгунныя помнікі выключна на заказ.

Упрыгожаньнем шэрагу магіл зьяўляюцца каваныя агароджы. Найбольш вядомымі кавалямі другой паловы XIX-пачатку XX ст.ст. былі Качаны, браты Гальскія і Сіліневічы. На дзьверках некаторых агароджаў да нашага часу цудам захаваліся шыльдачкі: "W.Kaczan Grodno", "Siliniewicz Grodno".

Качаны былі не толькі славутымі кавалямі, але і скульптарамі. У адрозьненьне ад іншых майстроў, род Качаноў - мясцовы. Гальскія ж прыехалі ў Горадню ў 80-х гадах. Тады ж тут пасяліліся Сіліневічы. Ігнацій Фабіян Францавіч Сіліневіч нарадзіўся ў Коўне ў 1859 годзе. Каля 1882-1883 г.г. сям'я Сіліневічаў ужо ў Горадні. Сіліневіч узначальвае сьлясарна-кавальны цэх, у склад якога ўваходзіла 64 рамесьніка (увогуле ў Горадні было 30 цэхаў). Жылі Сіліневічы на Дравяным завулку (потым Паштовая, цяпер Сацыялістычная). Драўляны дом, які выходзіў фасадам на вуліцу, не захаваўся. У другім двухпавярховым доме на першым паверсе знаходзілася майстэрня каваля. Агароджы каваля Сіліневіча можна сустрэць на ўсіх гарадзенскіх могілках. Яны ўпрыгожваюць помнік А.Тызенгаўзу ў Фарным касьцёле, вежы дома купца Мураўёва на Параднай плошчы (цяпер Савецкая). У кастрычніку 1918 г. славуты каваль памёр. На жаль, магіла пахаванага на тых самых каталіцкіх могілках не захавалася.

Не толькі людзі мастацтва - скульптары, кавалі - знайшлі на гарадзенскіх каталіцкіх могілках свой апошні прытулак.

Гарадзенскі віцэ-губернатар Канстаньцін Максімовіч. Нарадзіўся ў 1767 г. У 17 год скончыў Віленскі ўніверсітэт, дзе вывучаў гісторыю, філасофію, мілітарную архітэктуру, фізіку, лацінскую, польскую і французскую мовы. У 1784-1793 г.г. служыў у войску Рэчы Паспалітай, даслужыўся да чына маёра, пасьля чаго пачынаецца кар'ера Максімовіча як чыноўніка. У 1803 г. ён адказвае за ўзьвядзеньне маста праз Нёман. У 1807-1811, 1816-17 г.г. ён выконвае абавязкі гарадзенскага віцэ-губернатара, а з 1819 г. займае гэту пасаду стала. Прозьвішча Максімовіча добра вядома гарадзенцам і па так званаму "дому Максімовіча", пабудаванаму на вул.Верцялішскай (цяпер Ажэшкі), амаль што адзінага помніка эпохі класіцызма, што захаваўся ў Горадні.

На карце міжваеннай Горадні можна было знайсьці вуліцу Лістоўскага (цяпер Кірава). Кім быў Лістоўскі?

Яго жыцьцёвы шлях быў тыповым для людзей тых часоў. Рэальнае вучылішча, Мікалаеўскае інжэнернае вучылішча. У 1878 г. ён - юнкер, а ў 1908 - ужо палкоўнік у адстаўцы. Напярэдадні першай сусьветнай вайны Лістоўскі - гарадзенскі гарадзкі галава і ганаровы суддзя Гарадзенскай акругі. На пачатку 20-х гадоў - першы прэзідэнт Горадні. Памёр Лістоўскі ў 1922 годзе і быў пахаваны на могілках непадалёк ад магілы Э.Ажэшка.

На гарадзенскіх каталіцкіх могілках пахаваны людзі розных прафесій, поглядаў, сацыяльных груп і ...гарадзенскія масоны.

Масонства як рух паўстае на пачатку XVII ст. у Англіі. Першая ложа зьяўляецца ў Горадні ў 80-я гады XVIII ст., другая, якая называецца "Сябры чалавецтва", дзейнічае ў 1817-1821 г.г. У ёй было каля 150 сяброў. На чале масонаў стаяў гарадзенскі грамадзянскі губернатар Міхал Бутаўт-Анджэйковіч. Адной з галоўных мэт масонаў была дабрачыннасьць. Яны праводзяць у Горадні дабрачынныя канцэрты, сродкі ад якіх ідуць на ўтрыманьне хворых і бедных. Дзякуючы намаганьням губернатара ў мурах былога касьцёла і шпіталя сьв.Духа на вуліцы Дамініканскай (цяпер Савецкая) адчыняецца Дом Дабрачыннасьці. Не менш высакароднымі ідэаламі кіраваліся масоны ў сваёй дзейнасьці. У кола іх задач уваходзіла пытаньне адмены прыгоннага права ці праблема аднаўленьня незалежнасьці Рэчы Паспалітай. Таму, як відаць, па сваіх ідэях і духу масонства было даволі прагрэсіўным рухам. Сябрам гарадзенскай ложы быў чыноўнік апарата губернскага шляхецкага маршалка Пётр Сіманоўскі. Вікеньцій Стычынскі займаў у ложы пасаду першага дарадцы. Скончыў Віленскі ўніверсітэт, працаваў у сістэме адукацыі, потым у Казённай Палаце радцам.

Сярод пахаваных можна налічыць значную колькасьць урачоў, фармацэўтаў, фельчараў: Казімір Дамброўскі, які ў 1908-1912 г.г. адкрыў у Горадні прыватную акулістычную лячэбніцу; Валяньцін Сухадольскі пасьля сканчэньня Харкаўскага ўніверсітэта доўгі час служыў флоцкім лекарам у Астрахані і Кранштадце, акушэр Гарадзенскай лекарскай управы, лекарскага аддзяленьня Гарадзенскага губернскага праўленьня.

Урач А.Тальгейм карыстаўся ў Горадні на пачатку XX ст. вялікай павагай. Тальгеймы - шляхецкі прускі род, які атрымаў расейскае падданства ў 30-я гады XIX ст. Аляксандр Тальгейм працуе ў Гарадзенскай абшчыне сясьцёр міласэрнасьці "Чырвоны крыж", а таксама як прыватна практыкуючы ўрач. З 1907 г. узначальвае таварыства аматараў драматычнага і музычнага мастацтва "Муза", ганаровым членам якога была пісьменьніца Э.Ажэшка. Захапленьне культурнай спадчынай, мастацтвам аказалі ўплыў нават на такі бок жыцьця і быту сям'і Тэльгеймаў, як будаўніцтва. На пачатку XX ст. на вуглу вуліц Сафійскай (цяпер Леніна) і Палявой (цяпер Карбышава) Тэльгейм будуе сабе асабняк у стылі мадэрн. І цяпер гэты невялікі, але прыгожы дом з вежкай і вузкімі вокнамі ўпрыгожвае наш горад, уваходзячы ў спадчыну Горадні.

На могілках пахавана не шмат вайсковых чыноў, што было абумоўлена вялікай канцэнтрацыяй войск у Горадні на працягу XIX - пач.XX ст.ст. У 1891 г. насельніцтва горада складала каля 50 тысяч чалавек, а колькасьць войска - каля 6.500 чалавек. Гэтыя суадносіны значна зьменшыліся на карысьць апошніх на пачатку XX ст. У Горадні разьмяшчаўся ўжо 16-тысячны кантынгент войскаў: 101-ы Пермскі, 103-ці Петразаводзкі, 104-ты Ўсьцюжскі полк, 26-я артбрыгада, 4-ы сапёрны батальён, гусарскія палкі. Шмат магіл афіцэраў і нават генералаў сустракаюцца тут. Сярод апошніх - надмагільле генерал-маёраў Ф.Баркоўскага (1803-1871), Ф.Хамрота (1830-1896), Б.Вацеўскага (1849-1911), генерал-лейтэнанта В.Вэвэрна (1825-1888). Ёсьць на могілках і групавыя пахаваньні: каля 150 салдат афіцэраў польскай арміі, манашак-назарэтанак.

Асаблівую ўвагу заслугоўвае вядомы ў міжваеннай Горадні францішканін Мельхтор Фордон ці ксёндз Францішак Грынкевіч - кіраўнік гуртка беларускай моладзі ў Горадні ў 1909-1912 г.г.

Маўклівае падарожжа ў краіну сьціплых драўляных крыжоў і сямейных гранітных склепаў прыводзіць да высновы, што на могілках побач са славутай Э.Ажэшка пахаваны гарадзенскі beau monde канца 19- пач.20 ст.ст.: гэта сёстры, знаёмыя, сваякі пісьменьніцы. Муж Э.Ажэшка - юрыст С.Нагорскі, маці Францішка Відэцкая, жонка ўрача Юліяна Бенецкага-Караліна, Вільгельміна Вындром-Касьцялкоўская, Вікторыя Кжывіцкая, жонка губернскага маршалка, адвакат Лявон Бялецкі і іншыя. На жаль, не захавалася магіла блізкага сябра пані Элізы - паўстанца 1863-64 г.г. Людаміра Атрэмскага, чый дом знаходзіўся побач з яе домам.

Неаднастайны нацыянальны склад насельніцтва Гарадзеншчыны, частая міграцыя (з Нямеччыны, Чэхіі, Францыі і інш.) пакінулі свой сьлед і на гісторыі гарадзенскай каталіцкай некралогіі. Тут пахаваны палякі, беларусы. Сустракаюцца надпісы на французскай, нямецкай, новай летувіскай і чэшскай мовах.

На могілках хавалі нягледзячы на нацыянальную і сацыяльную стракатасьць. Сістэма пахаваньня той ці іншай грамадзкай групы ў асобных кварталах адсутнічала.

Да 1939 года ў Горадні існавалі двое праваслаўных, двое каталіцкіх, двое габрэйскіх, адны лютэранскія і вайсковыя могілкі. У савецкія часы былі зьнішчаны лютэранскія могілкі па вул.1 Мая. На гэтым месцы цяпер дзіцячы садок, на месцы найбуйнейшых габрэйскіх могілак - стадыён "Нёман". Хрысьціянскія могілкі з вялікай колькасьцю каштоўных помнікаў знаходзяцца ў вельмі непрыкметным, занядбаным стане. Але ж шанаваньне магіл продкаў - гэта не толькі проста сьвяты абавязак, гэта адносіны да сваіх каранёў, да спадчыны, пакінутай нашымі дзядамі і прадзедамі.

**Ю.ГАРДЗЕЕЎ.**

**Фатаграфаваў В. ГАРОШКА.**





# На тыдзень

## ПЯТНІЦА, 6.01

### БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

8.00 Мультфільмы кінастудыі "Беларусьфільм": "Косар-волат", "Несцерка", "Песня пра зубра" 8.45 "Пракажоная", с. 3 (Францыя) 9.40 "Прыгоды капітана Врунгеля", с. 11—13 10.10 "Пітэр Пэн", м/ф 12.30 "Фантазія". Фільм-канцэрт 12.50 "Я + Я" 13.30 Тэленарыс 14.00 "Ляцяць жураўлі", м/ф 15.35 "Авадзень", с. 3 16.50 "Тэлебом-біс" 17.30 "Успамін пра Міколу Равенскага", д/ф 18.00 Навіны 18.10 "Добры лес", мульт 18.25 Навіны (Бі-бі-сі) 19.00 Імгненне шчырасці 19.25 Дыялогі аб спорце 19.45 "Калі б не конкурс..." Муз. праграма 20.25 Вясёлы ўік-энд 20.35 Калыханка 21.00 Панарама 21.40 Студыя "Палітыка" 21.55 "Пракажоная", м/ф, с. 4 (Францыя) 22.50 Эканамікст 23.05 Навіны 23.35 Святочнае наюажэнства ў Мінскім Свята-Духавым Кафедральным саборы

### КАНАЛ "АСТАНКІНА"

5.30 Раніца 7.50 Брэйн рынг 8.25 "Дзікая Роза" 8.50, 9.50, 15.50, 17.50 Навіны 9.00 Дапамажы сабе сам 9.30 "З намі Бог". Аб святкаванні Ражаства ў храме Казанскай Божай маці ў Каломенскім запаведніку 14.00 Улада і рэформы 14.20 Хроніка дзелавога жыцця 14.25 Наш прагноз 14.30 Да вашых паслуг 14.40 Шоу і бізнес 15.00 "Маленькі мсціўца", м/ф 16.20 Фігурнае катанне. Чэмпіянат Расіі 16.50 Свет сёння 17.00 Чалавек і закон 17.30 У гэтыя дні праз 50 гадоў 17.45, 20.30 Надвор'е 18.00 Бамонд 18.25 "Дзікая Роза" 18.50 Поле цудаў 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.00 Час 20.40 Старонкі паэзіі 21.00 Ражаство Хрыстова. Трансляцыя з Богаяўленскага Кафедральнага сабора г. Масквы

### КАНАЛ "РАСІЯ"

7.00, 11.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі 7.20 Зоркі гавораць 7.30 Між іншым 8.00 Навіны Эй-бі-сі 8.25 "Пячора "Залатой ружы", м/ф, с. 9 9.15 Ваенны кур'ер 9.30 "Санта-Барбара" 10.20 Гандлёвы дом 10.35 Тэлегазета 10.40 Сялянскае пытанне 11.05, 13.20 Дзелавая Расія 13.45 "Свеце ціхі...", т/ф 15.05 Там-там навіны 15.20 Свята кожны дзень 15.30 Студыя "Рост" 16.05 Новая лінія 16.45 Ніхто не забыты 16.50 Дысней па пятніцах 17.45 Экспавідэа 18.00 Хто мы? 18.45 "Калядная фантазія", мульт 19.25 Падрабязнасці 19.35 "Санта-Барбара" 20.30 Я — лідэр 20.55 Пяць хвілін аб добрым жыцці 21.05 "Фрак народа" 22.30 Рака часу 22.40 Аўтаімгненне 22.45 "Белыя ночы", м/ф

### САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ

12.00, 14.30, 19.30 Інфарм ТБ 12.10 "Катэрок", мульт 12.20 Фільм-канцэрт 12.50 На святой зямлі 12.55 "Ражаство Хрыстова" 14.45 "Брэменскія музыкі", мульт 15.10 "Калядная гісторыя". Спектакль для дзяцей 16.20 На святой зямлі 16.25 Чароўная лінія 16.40 Казка за казкай 17.30 Калядная служба 19.10 Вялікі фестываль 19.50 Спорт, спорт, спорт... 20.00 "Выключэнні без правілаў", м/ф 21.40 На святой зямлі 21.50 "Жаніцьба Бальзамінава". Харэаграфічная фантазія 23.00 Ваш стыль 23.05 "Яе развод", м/ф (ЗША)

### ПОЛЬШЧА - 1

07 00 Кава ці гарбата. 09 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Для дзяцей. 09 55 Гімнастыка. 10 00 Навіны. 10 10 Мама і я. 10 25 Дашкольнікі дома. 11 00 "Вяртанне Макклейна". Серыял вытв. ЗША. 11 45 Музычная праграма. 12 00 Школа для бацькоў. 12 15 Пашый сама. 12 30 Родам з Польшчы. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнес. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 45 Аўстрыйскае тэлебачанне - госць адукацыйнага тэлебачання. 15 10 Спартыўная студыя. 15 55 Праграма дня. 16 00 Музычны тэлетурнір. 16 30 Дакументальны фільм. 16 55 Музычная праграма. 17 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 17 25 Праграма для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлежурнал. 18 30 Штотыднёвік культуры. 18 40 Тэлежурнал спажыўца. 19 05 Спатканне ўцёмную. 19 50 Сатырычная праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Паляўнічы за андроідамі". Фільм вытв. ЗША. 23 05 Пульс дня. 23 20 Чвэрць гадзіны. 23 35 Рэпартаж. 00 00 Навіны. 00 15 Тэлежурнал. 00 55 "Вышыбала". Фільм вытв. ЗША. 02 45 Тэлежурнал.

### ПОЛЬШЧА - 2

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Ранішні госць. 08 30 Курс англійскай мовы. 08 40 Музычныя навіны. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 Камедыйны серыял. 10 00 Трансляцыя пасяджэнняў сейма. 14 00 Панарама. 15 55 Прывітанне. 16 00 Праграма для дзяцей. 16 30 Спартыўная студыя. 17 30 "Ад дзевяці да пяці". Камедыйны серыял вытв. ЗША. 17 55 Дакументальны фільм. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Адзін з дзесяці. 20 35 Музычная праграма. 21 00 Тэлежурнал. 21 50 Спартыўная праграма. 22 00 Панарама. 22 30 Дэнамінацыя. 22 35 Другая праграма. 22 45 Каляды. 23 15 Мультфільм. 23 25 "У лавушцы маўчання". Фільм вытв. ЗША. 01 00 Панарама. 01 15 Забаўляльная праграма.

## СУБОТА, 7.01

### БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

8.00 "Віншуе "Свята". Муз.праграма 8.30 "Вечная ісціна", д/ф 9.35 Здароўе 10.10 Слова на Ражаство Хрыстова Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта 10.25 Існасць 11.10 "Фрагменты". Творы беларускіх мастакоў 11.20 "Лулу — анёл кветак" 11.55 "Мой свет", Калядныя сустрэчы 12.40 Мультфільмы 13.25 Шматгалоссе 13.55 "Вітражных спраў майстар". Муз. фільм 14.55 "Калядная зорка-94" 15.55 "Па святых вечарох". Выступае "Госьціца" 16.05 "Прасіце і будзе вам...", м/ф 18.05 Запрашаем на вячоркі 18.55 Міжнародныя спартыўныя навіны 19.25 "Зорка з зоркаю гавораць..." Шоу-праграма 20.15 "Калядныя апавяданні", мульт 20.25 Вясёлы ўік-энд 20.35 Калыханка 21.00 Панарама 21.40 "Акалада". Забаўляльная муз. праграма 22.10, 0.15 "Масква слязам не верыць", м/ф 23.15 Відзьма-нявідзьма

### КАНАЛ "АСТАНКІНА"

7.45 "Навагоднія прыгоды", мульт 8.00 "Марафон-15" — малышам 8.30 Тэлерадыёкампанія "Мір" 10.00 Ранішняя пошта 10.30 Я — жанчына 10.55 Смак 11.10 "Радуйцеся!" Відэафільм 12.00 Уручэнне Расійскай незалежнай прэміі заахвочвання вышэйшых дасягненняў літаратуры і мастацтва "Трыумф" за 1994 год 12.50 "Не нам, Божа, не нам, але імені Твайму..." Трансляцыя ўрачыстай закладкі храма Хрыста Збавіцеля ў Маскве 13.50, 22.50, 24.00 Навіны 14.00 Фігурнае катанне. Чэмпіянат Расіі 14.45 "Краса і гордасць Расіі". Фільм 2-гі 15.15 "Жыццё заапаркаў" 15.55 Галасы Расіі 16.15 "Ваш выхад, маэстра". Гум. праграма, ч. 1 17.00 Да і пасля... 17.55 "Пераборлівы жаніх", м/ф 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.00 Час 20.35, 21.40 Надвор'е 20.45 Тэатр + TV 21.30 Ралі Парыж—Гранада—Дакар 21.50 Калядныя сустрэчы 0.10 Фігурнае катанне. Чэмпіянат Расіі

### КАНАЛ "РАСІЯ"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі 7.20 Кліп-антракт 7.30 "Ражаство Хрыстова", д/ф 8.00 Навагодняя казка 8.30 "Пячора "Залатой ружы", м/ф, с. 10 9.25 Вяртанне традыцый 9.40 Парламенцкі тыдзень 10.25 Тэлеэрудыт 10.30 Калядная раніца 11.00 З Ражаством Хрыстовым! Віншаванне Усерасійскай раcтве 11.15 С. Пракоф'еў. "Папялушка". Прэм'ера Марыінскага тэатра 12.40 Сялянскае пытанне 13.20 Дэ факта 13.35 "Эдэра" 14.24 Кінаафіша 14.40 "Канёк-Гарбунок", мульт 15.55 Ж. Офенбах. "Інтэрмецца ў стылі аперэты" 16.40 Тэлеэрудыт 16.45 XX стагоддзе ў кадры і за кадрам 17.35 Маскі-шоу 19.25 Свята кожны дзень 19.35 "Гардэмарыны-3", м/ф 21.25 "Нос". Гумарыстычная праграма 22.30 Рака часу 22.45 Праграма "А" 23.45 "Ніагара", м/ф

### САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ

7.00 Добрай раніцы 10.00 Кубак свету па лыжных гонках 12.40 "Ражаство Хрыстова" 13.25 Музыка на заказ 13.55 Я і мой кот 14.20 "Палёты ў сне і наяве", м/ф 15.50 "Аб'ектыў" 16.40 Чароўная лінія 17.00 "Паддашак скарбаў". Перадача для дзяцей 17.25 Студыя "Уяві" 17.35 Паласаты хіт 18.10 Экспрэс-кіно 18.30, 21.30 Інфарм ТБ 18.50 На святой зямлі 19.10 Вялікі фестываль 19.30 "Прыгоды маладога пана", м/ф 21.50 Ваш стыль 21.55 "Не хочаш — не глядзі" 23.05 "Хакей Анатоля Тарасава", д/ф, с. 1 24.00 Ф. Легар. "Граф Люксембург". Спектакль Маскоўскага тэатра аперэты, ч. 1

### ПОЛЬШЧА - 1

08 00 Прашу адказаць. 08 25 Усё аб агародзе. 08 50 Агралінія. 09 30 Спартыўная аптэка. 09 55 Праграма дня. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма каталіцкай рэдакцыі для дзяцей. 10 35 Праграма для дзяцей. 12 20 Дакументальны фільм. 12 55 Тэлежурнал. 13 00 Навіны. 13 10 Тэлежурнал. 13 35 Музычная праграма. 14 20 Мультфільмы У. Дыснея. 15 35 Тэлетэатр. 16 25 Канцэрт. 16 55 Жывёлы свету. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлежурнал. 18 50 Тэлежурнал. 19 10 "Беверлі Хілз". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 00 "Вяртанне ў школу". Камедыя вытв. ЗША. 23 00 Баль майстроў спорта. 00 30 Навіны. 00 40 Спартыўная субота. 01 00 "Камуфляж". Фільм вытв. Англіі. 02 25 "Блізнец". Фільм вытв. ЗША. 04 05 Музычная праграма.

### ПОЛЬШЧА - 2

08 00 Панарама. 08 10 Музычная раніца. 08 30 Такія адзінокія. 08 50 Урок мовы глуханямых. 08 55 Прывітанне. 09 00 Музыкачны рэпартаж. 09 30 Мультфільм. 10 00 Мясцовая праграма. 11 00 Рэпартаж. 11 30 Журнал нацыянальных меншасцяў. 12 00 Праграма для дзяцей. 13 00 "Уцячы як мага бліжэй". Фільм вытв. Польшчы. 14 45 Польская кінахроніка. 15 00 Праваслаўнае ражаство. 15 30 Жыццё побач з намі. 16 00 Незвычайная справа. 16 15 Другая праграма. 16 25 Прывітанне. 16 30 "Хартовы на дзікім Захадзе". Серыял вытв. ЗША. 17 30 Тэлетурнір. 18 00 Вялікая гульня. 18 55 Розыгрыш лато. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 19 30 Сем дзён - свет. 20 00 Тэлетурнір. 20 35 Праграма для дзяцей. 21 00 Канцэрт. 22 00 Панарама. 22 30 Слова на нядзелю. 22 35 Музычны журнал. 23 05 "Змяненне лёсу". Фільм вытв. ЗША. 01 00 Панарама. 01 05 Рок.

## НЯДЗЕЛЯ, 8.01

### БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

8.00 Фільм-канцэрт 8.40 "Жылі-былі людзі...", д/ф 9.00 Добрыя весткі 9.10 "Залатыя рогі", м/ф 10.20 Вас выклікае Спартландыя 11.15 "Тэлебом" у Магілёве 12.15 Свята танца 13.05 "АВС-клуб" 13.20 "І шчасце, і годнасць, і слава". Да 200-годдзя вызваленчага паўстання 14.00, 14.55 Беларусь збірае сяброў 14.45 "Прагулка ката Леапольда", мульт 15.45 Погляд у будучыню. "Пасля 2000 года" 16.45 Анталогія гумару 17.20 "Сабака Барбос і незвычайны крос", "Самагоншчыкі", к/ф 17.50 Кубак Беларусі па футзалу 18.30 Аўта-парк 18.45 Пераможца 19.05 Фільм-канцэрт 19.35 "Шляхціц Завальня" В. Турава і "Эпілог" І. Дабралюбава 20.25 Вясёлы ўік-энд 20.35 Калыханка 21.00 Панарама 21.40 Вячэрні роздум 21.50 "Нов і К"-топ-шоу 23.00 "Макс і бляхары", м/ф

### КАНАЛ "АСТАНКІНА"

7.15 Алімпійская раніца 7.50 Спортлато 8.00 Марафон-15 8.30 Раным-рана 9.00 Палігон 9.30 Пакуль усе дома 10.00 Ранішняя зорка 10.50 Пад знакам "пі" 11.40 Амерыка з М. Таратутам 12.10 Эканоміка і рэформы 12.40 "Шпаргалка" з падарункам 12.55 Сусветная геаграфія 13.50, 17.00, 22.50, 23.50 Навіны 14.00 "Стратэгія Перамогі", д/ф, с. 14, ч. 2 14.55 Клуб падарожнікаў 15.45 "Эх, шлях-дарожка франтавая..." 15.55 Фігурнае катанне. Чэмпіянат Расіі 17.10 Мініяцюра 17.30 "Дзе Уолі?", "Пітэр Пуш", мульт (ЗША) 18.30 Тэлелоцыя 18.45 Надвор'е 18.55 "Акно ў Парыж", м/ф 21.00 Нядзеля 21.50 Ралі Парыж—Гранада—Дакар 22.05 Вялікі тэатр. Дні і вечары 23.05 "Вяселле Лаліты", м/ф (Францыя)

### КАНАЛ "РАСІЯ"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі 7.20 Зоркі гавораць 7.30 Студыя "Рост" 8.00 Пілігрым 8.45 Добрай раніцы, Еўропа 9.15 "Пячора "Залатой ружы", м/ф, с. 11 10.10 Мульці-пульці 10.20 Рускае лата 11.05 "Чокнутыя", м/ф 12.40 Шэсць сотак 13.20 "Не высечы..." 13.35 "Эдэра" 14.30 Лад-галерэя 14.55 Кліп-антракт 15.00 Лепшыя гульні НБА 16.00 У свеце жывёл 17.00 Чароўны свет Дыснея 17.50 Балетная мініяцюра 18.00 Свята кожны дзень 18.10 Каробка перадач 18.25 Астралогія кахання. А. Пугачова 19.25 "Дваранскае гняздо", м/ф 21.25 У Ксюшы 22.30 Рака часу 22.40 Аўтаімгненне 22.45 Рэк-тайм

### САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ

7.00 Добрай раніцы 10.00 Кубак свету па лыжных гонках 11.00 Нядзельны лабірынт 12.45 "Мая музыка". Эльдар Разанаў 13.15 Экспрэс-кіно 13.30 Чароўная лінія 13.45 Дэрыжыруе Ю. Цемірканаў. А. Пятроў. "Стварэнне свету" 14.10 Пецярбург: гукі і водгукі 15.25 Чэмпіянат Італіі па футболе 17.20 "Акрабаты на снезе", т/ф 17.30 Залаты ключ 17.45 Кідайка 18.25 "Вілар: жыццё і страсць", т/ф (Францыя) 19.30 Інфарм ТБ 19.50 Кубак свету па лыжных гонках 20.20 "Мы дзіўна сустрэліся", м/ф 21.35 "Канцэрт-рэтра" 21.55 Ваш стыль 22.00 "Паглядзім" 22.15 Адамаў яблык 23.15 "Хакей Анатоля Тарасава", д/ф, с. 2 23.55 Ф. Легар. "Граф Люксембург". Спектакль Маскоўскага тэатра оперэты, ч. 2

### ПОЛЬШЧА - 1

08 00 Сельская гаспадарка ў свеце. 08 15 Далёка і блізка. 08 30 Нядзеля. 09 00 Сельскагаспадарчая праграма. 09 25 Праграма дня. 09 30 Нядзельная кінапраграма. 09 55 Праграма для дзяцей. 10 10 Тэлераніца. 10 40 Музычная скрыня. 11 10 Фільм для дзяцей. 12 00 Навіны. 12 10 Дакументальны фільм. 13 00 Тэлеканцэрт пажаданняў. 13 30 З камерай сярод звяроў. 13 45 Энцыклапедыя галактыкі. 14 05 Перац і ваніль. 14 50 У старым кіно. 16 35 Сто пытанняў да ... 17 05 Антэна. 17 25 Вочы ў вочы. 17 35 Антэна. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 25 Варта пасмяяцца. 19 05 "Доктар Квін". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 Серыял вытв. ЗША. 22 05 Спартыўная нядзеля. 22 30 Дакументальны серыял. 22 50 Публіцыстычная праграма. 23 20 Вечар з Аліцыяй. 00 20 "Сямейны прыём". Фільм вытв. ЗША. 02 20 Вакол вялікай сцэны.

### ПОЛЬШЧА - 2

08 00 Рэха нядзелі. 08 30 Фільм для глухіх. 09 20 Слова на нядзелю. 09 25 Канцэрт. 09 30 Згуртаванне ў культуры. 10 00 Благачынны канцэрт. 10 30 Мясцовая праграма. 11 00 Дакументальны фільм. 12 00 Гадзіна з Ханнай Барберай. 13 00 Благачынны канцэрт. 13 15 Камедыя вытв. Англіі. 14 50 Другая праграма. 15 00 Благачынны канцэрт. 15 30 Вандраванне ў часе і прасторы. 16 20 "Пам Магоо". Серыял вытв. Канады. 16 25 Благачынны канцэрт. 17 00 "Як ёсьць". Серыял вытв. Польшчы. 17 30 Тэлетурнір. 18 00 Айчына. 18 15 Благачынны канцэрт. 19 30 Публіцыстычная праграма. 19 50 Мясцовая праграма. 20 00 Тэлетурнір. 20 30 Благачынны канцэрт. 21 00 Вечар песні. 22 00 Панарама. 22 30 Благачынны канцэрт. 23 20 "Квін". Серыял вытв. ЗША. 00 15 Благачынны канцэрт. 01 00 Панарама.



# ІНФАКАЛАЖ

## ЛІСТ НАПІСАНЫ КРЫВЁЮ

Крывёю напісала ліст дыск-жакею чалябінскай радыёстанцыі "Інтэрхваля" В.Сазонаву яго паклоньніца.

На думку экспертаў, што вывучалі ліст, на яго напісаньне аўтару спатрэбілася не менш 100 грамаў крыві, а гэта ўжо пагражае здароўю.

Таму дырэктар радыёстанцыі выдаў загад: на пачатку кожнай перадачы заклікаць фанаў пісаць допісы да супрацоўнікаў чарнілам, а калі яно ў дэфіцыце, то лепей для напісаньня выкарыстоўваць памаду для вуснаў.

## ЦЕШЧЫ БУДУЦЬ АБАРОНЕНЫ

У Аргенціне створаны клуб у абарону цешчаў. Да клуба могуць быць залічаны толькі зяці, якія паважаюць сваіх цешчаў.

Сьпіс клуба налічвае больш за сто сяброў.

## ХАЛАСЬЦЯКІ СЬВЕТУ, ЯДНАЙЦЕСЯ!

Асацыяцыя халасьцякоў створана ў Югаславіі. Цікаўнасьць асацыяцыі не ў тым, што яна абараняе пераканаых халасьцякоў, а, наадварот, у тым, што яе сябры вядуць барацьбу супраць адзіноты моцнага полу. Мэта асацыяцыі - аб'яднаць усіх халасьцякоў сьвету ў адзіную арганізацыю са сваім статутам.

Зараз да шэрагаў асацыяцыі ўваходзіць больш за 21-у тысячу адзінокіх мужчын.

## НІ ДУМАЎ, НІ МАРЫЎ

Бяльгіец Жозэф Гаяньдзі - нумізмат. Але пра тое, што яго калекцыя павялічыцца так хутка, не марыў. Вырашыўшы пры дапамозе кувалды напалохаць загуляўшых суседзяў, ён ударыў ёю ў сьцяну суседзкай кватэры. З прабоіны на ўззлаванага нумізмата пасыпаліся сярэбраныя манеты.

Апрытомнеўшы ад здарыўшагася, калекцыянер падлічыў, што на яго шчасьце са сьцяны выпала больш за 300 старажытных манет.

## У КАГО СМАГА БОЛЬШАЯ?

Англійскія жанчыны, што аддаюць перавагу адпачынку ў кавярнях, выпіваюць на 25% моцных напояў болей, чым дзесяць год таму назад. Мужчыны ж, наадварот, скарацілі ўжываньне алкаголю амаль на 22%.

Зараз на тыдзень моцны пол Ангельшчыны выпівае 7,2 літра піва, віскі, віна. Дзесяць год таму гэты паказчык быў роўны 9,9 літра.

(З.П.)

